

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***

# наша СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 52 (1151)** **26 СНЕЖНЯ 2013 г.**

# З Новым 2014 годам!




## *Віншаванне з 2014 годам*

Шаноўныя сябры Таварыства беларускай мовы, прыхільнікі і руплі́ўцы роднага слова!

ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" віншуе вас з усімі зімовымі святамі: Днём Божага нараджэння, Калядамі і Новым 2014 годам. Мы зычым вам і вашым блізкім добрага здароўя, дабрабыту, творчага натхнення і асабістага шчасця на ўсе наступныя гады, прыемных святаў і аптымізму!

Дзякуй вам за тое, што былі з намі ў 2013 годзе, падтрымлівалі матэрыяльна і ідэйна, прымалі ўдзел у нашых мерапрыемствах і самі актыўна распрацоўвалі разнастайныя праекты. Многае было сёлета зроблена сумесна з вамі дзеля пашырэння мовы, але яшчэ больш мы мусім зрабіць у наступным 2014 годзе.

Сакратарыят ТБМ.

## Першы ў гісторыі Касцёла папскі дакумент па-беларуску

Святы Айцец Францішак напісаў беларускай верніцы Ядвізе Пастэрнак, даслаўшы першы ў гісторыі Касцёла папскі дакумент на беларускай мове.

Папа Францішак перадаў пергамент з благаславеннем жыхарцы Беларусі, якая доўгія гады падтрымлівала працу каталіцкага касцёла ў часы рэлігійных ганенняў у СССР.

Ядвіга Пастэрнак, дачка Віктара і Юзэфы, нарадзілася 6 красавіка 1927 года ў вёсцы Муляры за 35 км ад Вілейкі і жыве ў гэтай вёсцы да сённяшняга дня. Была 9-м дзіцем у сям'і.

Яе бацькі былі простымі вясковымі людзьмі, бацька быў краўцом, ад яго Ядвіга вучылася кравецкай справе і працавала ўсё жыццё швачкай. Выхоўвалася ў глыбока рэлігійнай сям'і. Да Першай святой Камуніі яе рыхтавалі сёстры непакалянкі з Вішнева. Скончыла пачатковую школу, дзе навучылася чытаць і пісаць на польскай мове. У 7 гадоў пакалечыла нагу, разбіўшы чашку на калене, і гэтая хвароба давала аб сабе знаць усё жыццё, стаўшы для яе сапраўдным крыжом.


Яго Святасць Францішак
спадарыні Ядвізе Пастэрнак

Спадарыня Ядвіга прысвяціла сябе Касцёлу, рыхтавала дзяцей да Першай святой Камуніі, перапісвала Катэхізіс. Зберагла крыж ад разабранай капліцы ў Дубаве. Калі ў Куранцы ў 2011 годзе з'явілася капліца, яна перадала яго туды...

Пра папскі дакумент стала вядома падчас візіту Апостальскага Нунцыя ў Беларусі арцыбіскупа Клаўдыя Гуджэроці ў парафію Узвышэння Святога Крыжа ў Вілейцы 22 снежня.

*catholic.by.*

ISSN 2073-7033




## 100 гадоў з дня нараджэння Аляксея Кулакоўскага



**Аляксей Мікалаевіч КУЛАКОЎСКІ** (24 снежня 1913, вёска Кулакі, Салігорскі раён, Менская вобласць - 9 красавіка 1986) - беларускі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры Беларускай ССР (1974). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР (1986, пасмяротна) за творы літаратуры і мастацтва для дзяцей, за кнігу аповесцей "Белы сокал".

Нарадзіўся ў сялянскай сям'і. У 1931 г. скончыў Рагачоўскую прафтэхшколу і некаторы час загадваў дрэваапрацоўчай арцеллю ў Касцюковічах на Магілёўшчыне. З гэтага ж года перайшоў на журналісцкую работу - адказны сакратар шматтыражкі, загадчык аддзела клімавіцкай раённай газеты "Камуна", адказны сакратар жлобінскай раённай газеты "Шлях сацыялізму", а са жніўня 1934 г. - намеснік загадчыка аддзела газеты "Чырвоная змена". У 1936-1939 гг. вучыўся ў Менскім настаўніцкім інстытуце, пасля заканчэння выкладаў у Цяцерынскай сярэдняй школе на Магілёўшчыне. У канцы 1939 г. быў прызваны ў Савецкую Армію. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны - камандзір звяза, камандзір роты (Сталінградскі, Украінскі франты). Быў тройчы паранены. Пасля дэмабілізацыі (1945) працаваў загадчыкам аддзела ў газеце "Сталинская молодежь", у часопісе "Беларусь", адказным сакратаром газеты "Літаратура і мастацтва". У 1953-1958 гг. - галоўны рэдактар часопіса "Маладосць". Быў намеснікам адказнага сакратара, адказным сакратаром праўлення СП БССР (1965-1976). У 1977-1986 гг. - дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы. У 1972 г. у складзе дэлегацыі БССР прымаў удзел у рабоце XXVII сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

Узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, Працоўнага Чырвонага Сцяга, двума ордэнамі "Знак Пашаны", Дружбы народаў і медалямі.

*Вікіпедыя.*

## 90 гадоў з дня нараджэння Анатоля Вялюгіна

*Жыццё - не мітульгі пацеха.*
*Гаптала. Славіла. Ламала.*
*Нявыкрыканы крык, як рэха:*
*жыцця ў жыцці мне мала.*
*Мала!*

90 гадоў з дня нараджэння

ВЯЛЮГІН Анатоль Сцяпанавіч

27.12.1923 - 24.10.1994

Нарадзіўся ў в. Машканы, Сенненскі раён Віцебскай вобл — беларускі паэт, празаік, кінасцэнарыст, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1969). Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Купалы (1964) Дзяржаўнай прэміі БССР (1968)

**Анатоль Сцяпанавіч ВЯЛЮГІН** (27 снежня 1923, в. Машканы, Сенненскі раён, Віцебская вобласць - 24 кастрычніка 1994) - беларускі паэт, празаік, кінасцэнарыст, перакладчык. Заслужаны дзеяч культуры Беларусі (1969).

Нарадзіўся ў сям'і фельчара. У 1939-1940 гадах, будучы студэнтам літаратурнага факультэта Менскага педагагічнага інстытута, працаваў у рэдакцыі газеты "Звязда". З верасня 1941 вучыўся ў Свярдлоўскім педагагічным інстытуце. У 1942 прызваны ў Чырвоную Армію, вучыўся ў Лугінскай авіяшколе, удзельнічаў у баях на Сталінградскім фронце. У 1943 быў паранены, доўгі час знаходзіўся на лячэнні ў шпіталі. У 1945-46 г. - літсупрацоўнік у газеце "Літаратура і мастацтва". У 1948 г. скончыў завочна Менскі педагагічны інстытут. Працаваў у прэсе, у 1946-84 г. з невялікімі перапынкамі працаваў рэдактарам аддзела паэзіі часопіса "Полымя". Сябар Саюза пісьменнікаў СССР з 1946.

*Вікіпедыя.*

№ 52 (1151) 26 СНЕЖНЯ 2013 г. Наша слова

# Рэканструяваны Берасцейкі вакзал падпісалі па-беларуску і па-англійску




Адбылося тое, за што змагалася ТБМ, ведучы доўгую перапіску з кіраўніцтвам Беларускай чыгункі і берасцейскімі ўладамі: асноўная мова Берасцейскага вакзала - беларуская, другая мова - англійская.

19 снежня а 16-й гадзіне на Берасцейскім вакзале здалі ў эксплуатацыю цэнтральную пачакальню на 240 месцаў, VIP-залу на 50 месцаў, залу для людзей з абмежаванымі магчымасцямі, а таксама комплекс дапаможных службаў: камеру захоўвання, бар, бістро, абменнік. Гэтак завяршыўся другі этап рэканструкцыі берасцейскага вакзала, якая пачалася ў 2011 годзе.

Падчас рэканструкцыі будынка вакзала захавалі савецкую сімволіку сталінскага барока - пяціканцовыя зоркі, сцягі, сярпы і молаты на ляпніне. Пакінулі зорку і на цэнтральным шпілі вакзала.






Як паведаміла прэс-служба Беларускай чыгункі, цалкам завяршыць рэканструкцыю вакзальнага комплекса плануецца ў 2014 годзе. Налета мяркуюць завяршыць рэканструкцыю большасці аб'ектаў Варшаўскага боку. Сярод іх прыгарадны вакзал, тунэль, платформы і навес над імі.

Вынікам першага этапу рэканструкцыі быў рамонт платформы і тунэля Маскоўскага боку вакзала.

Рускі тэкст пакінулі толькі на ганаровай шыльдзе Уладзіміру Леніну, міліцыі і ліфце для непаўнаспраўных.

Першапачаткова берасцейскія чыгуначнікі (не гарадскія ўлады) планавалі выканаць усё афармленне па-руску і па-англійску.

*Еўрарадыё.*

# У Мсціславе ўлады разам з ТБМ ушанавалі памяць мовазнаўца Івана Насовіча

15 снежня ў Мсціславе на будынку школы мастацтваў усталявалі памятную дошку беларускаму мовазнаўцу, фалькларысту і этнографу Івану Насовічу.

Складальнік аднаго з першых слоўнікаў беларускай мовы і "Зборніка беларускіх прыказак" на пачатку 19 стагоддзя быў рэктарам мясцовай духоўнай вучэльні, а пасля выхаду ў адстаўку да скону ў Мсціславе займаўся навуковай працай.

Ушанаваць памяць навукоўца ўсталяваннем памятнай дошкі прапанавала Таварыства беларускай мовы. Яе вырабілі на прыватныя ахвяраванні.







На ўрачыстасць адкрыцця памятнай дошкі на пляцоўцы перад школай мастацтваў сабралася немалая грамада рупліўцаў беларускай мовы і культуры - як мясцовых, гэтак і прыезджых, з Магілёва.

Адкрыў імпрэзу намеснік старшыні райвыканкаму Святаслаў Кусаў. Ён падзякаваў Таварыству беларускай мовы за дбайнае стаўленне да мсціслаўскай мінуўшчыны. Адзначыў, што гэта не першая ўсталяваная шыльда з ініцыятывы ТБМ, якою ушаноўваць слынных дзеячаў беларускай культуры ў райцэнтры.

*"Творы, якія стварыў Іван Насовіч, дужа моцныя па сваёй натуры. Самая галоўная ягоная праца - слоўнік беларускай мовы. У ім больш за трыццаць тысяч слоў ды яшчэ з тлумачэннямі. Гэтую вялікую працу ён рабіў 16 год. Такое мог зрабіць толькі навуковы інстытут, а Насовіч зрабіў у адзіночку. Вялікі дзякуй тым, хто ўдзельнічае ў адраджэнні беларускай мовы і культуры. Хацелася б, каб імя Івана Насовіча захавалася ў памяці кожнага чалавека, які жыве ў гэтым горадзе і прыязджае сюды, каб пазнаёміцца з нашай культурай і жыццём нашых продкаў"*, - звярнуўся да грамады Святаслаў Кусаў.

Мастацкая школа займае адзін з будынкаў колішняга езуіцкага кляштара, які ў 1820 годзе перадалі праваслаўным. Касцёл перарабілі ў Мікалаеўскую царкву. У ёй і месцілася духоўная вучэльня, рэктарам якой быў Іван Насовіч.

За савецкім часам будынак святыні цудам захаваўся. Цяпер яго спрабуюць адрамантаваць. Як звонку, гэтак і з сярэдзіны камяніца моцна пашкоджаная.

*"У Мсціславе многія будынкі адрэстаўраваныя - многія занядбаныя. Мы, едучы сюды, сёння згадвалі тых людзей, якіх акрамя нас ніхто не згадае: Змітрака Астапенку, Станіслава Шушкевіча, Аркадзя Куляшова і многіх іншых. Мы наведалі Вялікую Багацькаўку, там згадвалі братоў Гарэцкіх. Івана Насовіча пахавалі на цвінтары мясцовага Пячэрскага манастыра, які знеслі. Ад яго засталася толькі агароджа. Прыйдзе час і на той агароджы таксама будзе шыльда, на ёй будзе напісана, што тут пахаваны вялікі беларус, вялікі філолаг Іван Насовіч"*, - казаў у сваім выступе старшыня Магілёўскай суполкі ТБМ Алег Дзьячкоў.




На памятнай дошцы, якая цяпер на будынку школы мастацтваў, сціплы надпіс: *"У гэтым будынку ў 19 стагоддзі рэктарам Мсціслаўскай духоўнай вучэльні працаваў выбітны беларускі мовазнавец, фалькларыст і этнограф Іван Насовіч".*

*Радыё Свабода.*

**На здымках:** 1. Будынак школы мастацтваў (справа) і будынак колішняга кляштару (на дальнім плане); 2. Памятная дошка Івану Насовічу; 3. На імпрэзе.

# Сон у дзвюх дзеях

11 верасня 2013 года адбылася прэм'ера спектакля "Ціхі шэпат сыходзячых крокаў" (сон у дзвюх дзеях). Драматургічны матэрыял падрыхтаваў Дзмітры Багаслаўскі. Ён нарадзіўся ў 1985 годзе ў Менску. Працуе артыстам у Беларускім дзяржаўным маладзёжным тэатры. З'яўляецца таксама драматургам і рэжысёрам. Суарганізатар студыі альтэрнатыўнай драмы (САД). Яго п'есы перакладзены на польскую, італьянскую, іспанскую, украінскую мовы. Пастаноўкі паводле іх ідуць у Маскве (Тэатр імя У. Маякоўскага, Тэатр на Таганцы), Менску, Абакане, Улан-Удэ, Навасібірску, Уфе, Кіеве... Творы гэтага аўтара адзначаны прызамі і ўзнагародамі міжнародных драматургічных конкурсаў і фестываляў. У 2012-2013 гг. п'есы "Любоў людзей" і "Ціхі шэпат сыходзячых крокаў" перамаглі ў інтэрнэт-галасаванні "Конкурсу конкурсаў" у рамках праекту "новая п'еса" Усерасійскага тэатральнага фестывалю "Залатая Масква".

Рэжысёрам - пастаноўшчыкам спектакля з'яўляецца Шаміль Дыйканбаеў 1983 г.н. Ён у 2006 годзе скончыў Кыргызскі дзяржаўны інтытут мастацтваў імя Б. Бейшаналіевай як рэжысёр драмы. У 2009 - 2011 гг. прадоўжыў навучанне ў рэжысёрскай магістратуры школы-студыі Маскоўскага мастацкага акарэмічнага тэатра імя А. П. Чэхава і цэнтра імя У. Меерхольда. Пастаноўкі рэжысёра ідуць на розных сцэнах Кыргызстана, Узбекістана, Расіі...

Трэба адзначыць, што асабіста я глядзеў спектакль 3 снежня 2013 года. На сцэне было 9 чалавек, а ў зале было не больш, чым 50 чалавек. Зала была запоўнена толькі на 25-30 адсоткаў, а шкада, бо артысты гралі вельмі добра! У галоўнай ролі быў задзейнічаны Максім Брагінец. Ён іграў Аляксандра, а бацьку Аляксандра - славуты Канстанцін Воранаў. У ролі Альберта запомніўся Алесь Марчанка!

Ролі старэйшых сёстраў Аляксандра гралі: Вераніка Буслаева (Ганна), Марыя Пятровіч (Людміла), Анастасія Баброва (Зіна) і Людміла Сідаркевіч (Наталля).

Таксама ў спектаклі былі задзейнічаны: заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Валянцін Салаўёў і Кірыл Навіцкі.

Шкада, што квіткі на спектакль такія дарагія (70 тысяч), што паглядзець яго не можа беларуская моладзь і пенсіянеры. Спектакль вельмі цікавы.

***Аляксей Шалахоўскі,*** *гісторык, журналіст.*





# "Жыццёвы меланж" Радзіма Гарэцкага

Перапляценне лёсаў і падзеяў, убачанае праз прызму сваіх адчуванняў - гэта жыццёвы меланж выбітнага Беларуса - Радзіма Гарэцкага. І гэтым ён дзеліцца з усімі намі ў кнізе нарысаў, эсэ, мініяцюр-назіранняў ды лірычных зацемак, якая пабачыла свет літаральна гэтымі днямі ў выдавецтве "Кнігазбор" і выйшла пры падтрымцы МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".

"Жыццёвы меланж" - чаму аўтар абраў такую назву для сваёй кнігі? Адказ мы знойдзем у яго прадмове. Як вядома, Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі - не толькі беларускі грамадскі дзеяч, але і слынны беларускі геолаг, акадэмік НАН Беларусі, які вельмі любіць сваю прафесію. Таму не дзіўна, што для вызначэння жанраў сваіх твораў ён пазычыў паняцце з гэтай цікавай навукі - геалогіі. Там меланж абазначае геалагічнае цела, складзенае з разнастайных парод, якое мае досыць цікавую структуру і спалучае самыя розныя колеры. Такі меланж утвараецца пры стрэсавых з'явах, напрыклад, калі адзін вялікі блок зямной кары насоўваецца на другі. Але гэта - меланж геалагічны, а жыццёвы меланж - гэта адлюстраванне ўсяго, што было важным у жыцці, што знайшло свой адбітак у нашай памяці.




Выданне гэтай кнігі сталася сапраўды выдатнай падзеяй, якою адзначыўся юбілейны для Радзіма Гарэцкага месяц: 7 снежня яму споўнілася 85 гадоў. Матэрыял для гэтага грунтоўнага 648-старонкавага тома пісаўся цягам апошніх 20 гадоў, хаця першапачаткова гэта не задумвалася як кніга. Ідэя ж кнігі належыць Галіне Твархановіч, якая разам з Янам Чыквінам цягам некалькіх гадоў публікавала лірычную прозу Радзіма Гарэцкага на старонках часопіса "Тэрмапілы" і заахвочвала яго на напісанне новых твораў.

У кнізе таксама змешчаная здымкі Радзіма Гарэцкага разам з тымі людзьмі, аб якіх ён піша. А гэта цэлы шэраг выдатных постацяў, беларускіх геолагаў, пісьменнікаў, грамадскіх, палітычных, культурных дзеячаў… Сярод асобаў, якім прысвечаныя творы кнігі, - Ян Чэрскі, Максім Танк, Іван Мележ, Заір Азгур, Алесь Адамовіч, Адам Бабарэка, Барыс Кіт, Васіль Быкаў, Янка Брыль, Аляксандр Махнач, Пётра Садоўскі, Станіслаў Шушкевіч, Хведар Нюнька, Генадзь Бураўкін, Леанід Лыч, Уладзімір Пузыня, Ніл Гілевіч, Анатоль Вярцінскі, Міхась Чарняўскі ды многія, многія іншыя.

Гэтая кніга будзе цікавая самаму шырокаму колу чытачоў. Неўзабаве яна з'явіцца ў крамах Менска і іншых гарадоў Беларусі.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".*

# Аляксей Пяткевіч: "Усё пачынаецца са свайго"

Абудзіць у душы чалавека цікавасць да сваёй спадчыны - такую амбітную мэту ставіць перад сабой прафесар Аляксей Пяткевіч. Дзякуючы яго руплівай працы выйшаў ужо пяты выпуск Гарадзенскага краязнаўчага календара. Прэзентацыя выдання, у якім прадстаўленыя каля паўтысячы важных датаў і падзеяў з гісторыі Гарадзеншчыны, адбылася 20 снежня ў галерэі "Крыга". У сваёй невялікай вітальнай прамове аўтар распавёў пра гісторыю выдання такога кшталту календароў у Беларусі, а таксама пра тыя цяжкасці, з якімі яму давялося сутыкнуцца, спрабуючы надрукаваць свой каляндар. Па словах спадара Аляксея, нават падключэнне некалькіх дастаткова ўплывовых "пратэжэ" не дапамагло надрукаваць выданне ў дзяржаўных друкарнях Менска і Гародні. Без адказу застаўся і зварот у "Белкнігу" з просьбай паспрыяць продажу выдання ў кнігарнях краіны. "Кніжныя" чыноўнікі проста праігнаравалі зварот чалавека, які ўсё сваё жыццё аддаў навуцы, адукацыі, краязнаўству. Што крамольнага знайшло вока невядомых цэнзараў у згадванні імёнаў вядомых і не вельмі беларускіх настаўнікаў, медыкаў, літаратараў і іншых асобаў, звязаных з Гарадзеншчынай - так і не вядома. У выніку краязнаўчы каляндар выйшаў маленькім накладам і патрапіць найперш у рукі тых, хто прыйшоў на прэзентацыю і каму Аляксей Міхайлавіч дашле сваё выданне адрасна. Гарадзенская літаратарка Ала Петрушкевіч прызналася, што южны Новы год пачынае са знаёмства з краязнаўчым календаром Аляксея Пяткевіча.





*В. Дрэма, "Твой стыль".*

# Вяшчун крывіцкай культуры




*У серыі "100 выдатных дзеячаў беларускай культуры" выйшла кніга Анатоля Тараса "Вацлаў Ластоўскі: вяшчун крывіцкай культуры".*

Вацлаў Ластоўскі (1883-1938) - вядомы беларускі гісторык, філолаг, літаратуразнавец, этнограф, пісьменнік, публіцыст, грамадска-палітычны дзеяч. Адзін з першых акадэмікаў АН БССР, яе неадменны сакратар у 1928-29 гг. Ён аўтар першай "Гісторыі Беларусі", напісанай для беларусаў на роднай мове, а таксама рэдактар-выдавец часопіса "Крывіч" і стваральнік фундаментальнай "Гісторыі беларускай кнігі". У 30-я гады ХХ стагоддзя В. Ластоўскага спасціг той жа лёс, што і ўсіх іншых выбітных дзеячаў беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння - камуністы забілі яго.

Вацлаў Ластоўскі належыць да тых славутых дзеячаў нашай гісторыі і культуры эпохі "Нашай Нівы", якія вырвалі Беларусь з палітычнага, культурнага і гістарычнага небыцця. Перадусім здзіўляе шматграннасць яго інтарэсаў і дзейнасці, нязбыўная энергія. Ластоўскі быў не толькі грамадска-палітычным дзеячам і кіраўніком эміграцкага ўраду Беларускай Народнай Рэспублікі, але і таленавітым мовазнаўцам, літаратуразнаўцам, гісторыкам, пісьменнікам, публіцыстам.

Лёс Ластоўскага быў трагічны (сталінскія каты двойчы арыштоўвалі Ластоўскага па сфабрыкаваных абвінавачваннях і ў рэшце рэшт забілі), але яго палітычная, культурніцкая і навуковая дзейнасць мела велізарны ўплыў і рэзананс у сучасную яму эпоху і мае ў наш час. Ён застаецца сімвалам нязломнасці крывіцкага духу.

*Наш кар.*

# Шчыруйце, беларусы!

17 лістапада магілёўская суполка ТБМ у колькасці 45 чалавек выправілася ў чарговую краязнаўчую вандроўку. Гэтую паездку мы прымеркавалі да 125-годдзя славутага беларускага мастака Язэпа Драздовіча і рушылі па маршруце Магілёў - Порплішча - Глыбокае - Лужкі - Германавічы. У Порплішчы наведалі старадаўнюю драўляную, былую ўніяцкую царкву. Звычайна ў нашых вандроўках самі магілёўцы рыхтуюць паведамленні пра цікавыя мясціны нашага маршруту і пра знакамітых людзей. Так атрымалася і ў гэты раз. Пра Порплішча вельмі цікавыя звесткі знайшла і падзялілася імі з грамадой краязнаўца і бібліятэкар Ірына Сомава, а па шляху да Глыбокага дужа пранікнёна распавядала пра Ігната Буйніцкага спадарыня Ніна Осіпава. У Глыбокім нас чакаў спадар Юрый, які ўжо не ў першы раз для магілёўцаў вельмі грунтоўна і змястоўна паведаў пра пакручасты лёс былога кармеліцкага касцёла 17-18 ст., а



зараз сабора Раства Прасвятой Багародзіцы. Пашанцавала наведаць старажытныя сутарэнні - крыпту храма, дзе за савецкім часам месцілася складское памяшканне кансервавага завода. Затым па шляху да Траецкага касцёла мы прайшліся па алеі выбітных ураджэнцаў Глыбоччыны: Вацлава Ластоўскага, Паўла Сухога ды іншых земляко̆ў. Наступным нашым прыпынкам была вёска Лужкі, радзіма сусветнавядомага дзеяча беларускага і габрэйскага народаў Бен Іегуды. У старажытным мястэчку наведалі незвычайны касцёл, які ўразіў свёй узнёслай прыгажосцю.



Напрыканцы нашай экскурсіі мы завіталі ў Германавічы, па якіх нашым праваднікам была, канечне ж, дарагая Ада Райчонак. Наведваючы краязнаўчы музей Язэпа Драздовіча і музей Міхася Райчонка, магілёўцы яшчэ раз пераканаліся ў тым, што калі чалавек нечага вельмі моцна пажадае, то абавязкова гэтага дасягне. Бо здолела ж спадарыня Ада ў сваіх няпростых варунках зрабіць для ўсіх нас, беларусаў, такі неацэнны падарунак, як стварэнне гэтых цікавых музеяў дзеля ўшанавання нашых выбітных дзеячоў. Дзякуй Вам, спадарыня Ада, што ў далёкую ад Магілёва вёску ёсць да каго завітаць і натхніцца Вашай прысутнасцю побач з намі. Вы прыклад для ўсіх нас, і мы Вас вельмі любім! Дарэчы, Ада Райчонак і надалей прымае экспанаты ў свае музеі. Так што, беларусы, шчыруйце і ў нас усё атрымаецца, бо побач з намі ёсць такія цікавыя і неабыякавыя людзі.

*Алег Дзьячкоў.*

# Увага

У студзені 2014 г. у сядзібе ТБМ у межах кампаніі "Будзьма" працягвае працаваць гістарычная школа **"Гісторыя ў падзеях і малюнках"** пад кіраўніцтвам кандыдата гістарычных навук **Алега Трусава.**

Заняткі будуць прысвечаны вывучэнню гісторыі Беларусі ў ХХ - пач. ХХІ ст.

На занятках будуць дэманстравацца гістарычныя фільмы розных тэле- і кінастудый.

Падчас заняткаў таксама прадугледжаны абмен думкамі наконт сучаснага стану беларускай мовы і яе функцыянавання ў грамадстве.

Такім чынам, удзельнікі змогуць павысіць свае веды па гісторыі Беларусі і папрактыкавацца ў веданні беларускай мовы.

У студзені заняткі адбудуцца: **6 студзеня** (панядзелак), **13 студзеня** (панядзелак), **20 студзеня** (панядзелак), **27 студзеня** (панядзелак).

Пачатак а 18-й на вул. Румянцава, 13. Уваход вольны.

# ВЫБІТНЫ ШАХМАТНЫ КАМПАЗІТАР

## 100 гадоў з дня нараджэння Вацлава Гебельта



**ГЕБЕЛЬТ Вацлаў Яўгенавіч** (10 снежня 1913, в. Лабно Сувалкаўскай губ., цяпер Гарадзенскі р-н - 16 кастрычніка 1999, Ліда). З сям'і абшарніка. Атрымаў вышэйшую адукацыю, магістр філасофіі. Працаваў дырэктарам пачатковай школы в. Лойкі тагачаснага Сапоцкінскага р-на Гарадзенскай вобл. Падчас 2-й сусветнай вайны заставаўся на акупаванай тэрыторыі. Арыштаваны 27.12.1944. Асуджаны 1.4.1946 асобай нарадай пры МДБ як "нямецкі памагаты" да 5 гадоў ППЛ. Вызвалены 24.10.1949. Рэабілітаваны 10.7.1992 пракуратурай Гарадзенскай вобл. Асабовая справа Гебельта № п-14678 захоўваецца ў архіве УКДБ Гарадзенскай вобласці. Ён - самы першы майстар спорту СССР (па шахматнай кампазіцыі, 1957), самы першы чэмпіён СССР (па раздзелу двухходовых задач,1959 і па шахматнай кампазіцыі ў камандным першынстве, 1969, 1971), самы першы і пакуль адзіны беларускі міжнародны арбітр ФІДЭ па шахматнай кампазіцыі (1959), самы першы наш міжнародны майстар па шахматнай кампазіцыі (1977).

У апошні год свайго жыцця ён шмат супрацоўнічаў з Лідскім краязнаўчым музеем, пераклаў з лацінскай і з рукапіснай польскай некалькі вельмі складаных тэкстаў, у прыватнасці прывілей гораду Лідзе на Магдэбургскае права.

У жніўні 1998 года ён распавёў мне гісторыю свайго жыцця.

"Нарадзіўся 10 снежня 1913 года ў вёсцы Лабно Гарадзенскага раёна. Бацькі: Яўген Антонавіч і Агата Людвікаўна (у дзявоцтве Войнас), абое католікі. Прадзед прыехаў з Чэхаславакіі. Дзед служыў ляснічым. Бацька скончыў аграрную школу, маці з сялян. Бацька арандаваў зямлю ў вялікім маёнтку Лабно ў рускага генерала Свечына. З часам купіў 100 гектараў зямлі. Нас у сям'і было пяцёра: Сафія - 1898 года нараджэння, Эмілія - 1899, Антон - 1901, Вацлаў - 1913 і Тадэвуш - 1914 года нараджэння. Бацька памёр у 1931 годзе, пахаваны ў вёсцы Селіванаўцы. Помнік яму быў знішчаны падчас вайны. Маці памерла ў 1958 годзе ў Польшчы. Сёстры скончылі некалькі класаў школы, удачна выйшлі замуж і сталі хатнімі гаспадынямі. Антон закончыў рамесную школу, пасля вайны атрымаў участак зямлі ў Свабодзіне і палову дома, працаваў на гаспадарцы. Я і Тадэвуш атрымалі вышэйшую адукацыю. Тадэвуш скончыў сельскагаспадарчы інстытут, працаваў на гаспадарцы, вырошчваў насенне.

У 1915 годзе прыйшлі немцы. У Лабне і садзе стаяла нямецкая пушка, я разам з сёстрамі падыходзіў да яе. У 20-м годзе бацьку хацелі расстраляць - у нас было шмат зямлі. Бацьку забраў камісар у скуранай куртцы, але ўсе суседзі выйшлі, сказалі: "Адпусці, ён харошы ". Ва ўзросце 10 гадоў я паступіў у Гарадзенскую гімназію. Да паступлення мяне рыхтавала дома сястра Эмілія. Вучыўся 8 гадоў. Гімназія размяшчалася на вуліцы Паўночнай, недалёка ад дома Тызенгаўза. Вучылі французскую, лацінскую, польскую мовы, геаграфію, фізіку, матэматыку, гісторыю. У 1931 годзе паступіў у Варшаўскі ўніверсітэт імя Юзафа Пілсудскага (Кракаўскае прадмесце, зараз Варшаўскі дзяржаўны ўніверсітэт) на гуманітарны факультэт. У1933 годзе пачаў займацца шахматнай кампазіцыяй, наведваў Варшаўскае таварыства шахматных кампазітараў. У чэрвені 1937 года скончыў універсітэт са спецыяльнасцю - класічная філалогія, лацінская, грэцкая. Напісаў дыпломную працу "Гісторыя Афінскай дзяржавы ў святле ўяўленняў Арыстоцеля". Атрымаў дыплом магістра філасофіі. Прафесар Злінскі, які выкладаў у Варшаўскім універсітэце, а да гэтага жыў у Пецярбурзе, гаварыў нам: "Хто ведае класічную філалогію, той можа ўладкавацца працаваць усюды ".

Брат Антон і мама жылі на гаспадарцы. Частку зямлі аддалі сёстрам у пасаг, частку прадалі - двое вучыліся. Засталося 50 га. На канікулах прыязджалі дапамагалі.У 1937-1938 навучальным годзе праходзіў практыку ў Варшаўскай гімназіі. Прысутнічаў на ўроках лацінскай. Зрэдку дазвалялі весці ўрокі. У 1938 - 1939 навучальным годзе працаваў настаўнікам гімназіі ў Сувалках. Выкладаў лаціну ў 2-4 класах па 20 урокаў на тыдзень. Плацілі мне 100 злотых у месяц, пуд жыта каштаваў 2 злотыя. У чэрвені забралі ў войска. Служыў у Яраславе над Санам. Да гэтага бралі летам на два месяцы ў Маладзечна. Жылі ў вайсковых казармах, але асобна ад жаўнераў. У канцы жніўня 1939 года нас адправілі па сваіх ваенкаматах. Я ехаў у Сухую Балю, дзе жылі мае брат і мама. Вайна для мяне пачалася ў цягніку, калі цягнік пераехаў Варшаву, немцы пачалі бамбіць. У Сухой Балі мяне ўзялі ў камісію па прыёму жывёлы - выпісваў квітанцыі. Жывёлу пераганялі за Нёман. Ад Сухой Балі Нёман за 6 кіламетраў. 17 верасня - для ўсіх нас поўная нечаканасць. Я пачаў шукаць працу - у Гародні не прынялі. Паехаў у Аўгустоў у аддзел адукацыі. Там мяне накіравалі ў школу вёскі Лойкі (Сапоцкінскі раён). У 5-м класе вёў усе прадметы: арыфметыку, геаграфію - на польскай, вёў і нямецкую. Рускай я не ведаў, выкладаў іншы настаўнік. Пачаў працаваць з 1 лютага 1940 года, атрымоўваў 900 рублёў. У крамах тавару не стала, прывозілі цукеркі, давалі па 1 кілаграму. Чарніла рабілі з буракоў. Недахоп тавару тлумачылі тым, што ў Еўропе чыгуначная каляя іншага памеру. На наступны год дастаўка тавару палепшылася. У 40-м годзе арыштавалі старэйшага брата, сядзеў у Гародні, як кулак.

22 чэрвеня немцы ўвайшлі ў Лойкі. Бамбілі толькі на мяжы. Спачатку ўсе падумалі, што навальніца. Недалёка ад нас два хлопцы ішлі па сцежцы. Немцы іх застрэлілі за тое, што ішлі не па дарозе. Школу зачынілі. Пражыў усю вайну на гаспадарцы ў брата. Трэба было здаваць хлеб усёй вёскай, калі здасі - можаш прадаваць. Адну свіню здаеш - адну колеш для сябе. На жыццё хапала. У Сухой Балі немцаў не было. Хутар. Немцы прымушалі вырошчваць тытунь. У гаспадарцы былі дзве пары коней, дзве каровы, 2-3 свіні, малацілка, двайны плуг, бараны. Працавалі з цямна да цямна - тры браты, жонка брата, маці. На забаву хадзілі ў Лойкі. Адступалі немцы адзін дзень - 17 ліпеня, баёў не было, хутар уцалеў. Немцы заходзілі, браму разламалі.

Мне даручылі арганізаваць школу ў Лойках, быў прызначаны першым пасляваенным дырэктарам школы. Выкладанне вялі на польскай. У канцы снежня 1944 года мяне арыштавалі, за што - не ведаю. Тады шмат каго з гарадзенскай інтэлігенцыі арыштоўвалі. Запісалі біяграфічныя звесткі і адправілі ў Гародню. Допытаў не было. Суда не было. Пратрымалі да сярэдзіны лютага 1945 года ў цэнтральнай Гарадзенскай турме каля Фарнага касцёла. Без суда і следства вывезлі ў Комі АССР. У дарозе кармілі рыбай. Ніхто нічога не тлумачыў. Сацыяльна-небяспечны элемент. Братам абышлося - Тадэвуш схаваўся, Антона больш не чапалі.

Комі АССР. Інта. Капалі траншэі, нарыхтоўвалі камень, шчэбень на дарогі. Лагеры для нас ужо былі падрыхтаваныя. Адсыпалася дарога да Варкуты. Працавалі на цагельні - наша брыгада падвозіла дровы да печаў. Работы мянялі. У саўгасе "Месью" працаваў - вырошчвалі капусту, турнэпс, бульбу. Бульбу саджалі ў траўні, расла хутка - светлы дзень 20 гадзін. Канвой. Сабакі. Працаваў на лесанарыхтоўках ў іншых лагерах у межах Комі АССР, а ў канцы тэрміну ў Архангельскай вобласці. Прывезеных з Гарадзеншчыны раскідалі па розных лагерах. Ні з кім з тых, з кім везлі, не сустракаўся. Кармілі вельмі дрэнна, выратавалі мяне пасылкі ад суседзяў і бацькоў у вучняў. Землі нашы далучылі да калгаса пасля вайны. Калі мая сям 'я выязджала ў Польшчу, пакінулі каштоўныя рэчы суседзям у Лойках. Прысылалі мне ў пасылках крупы, сала, муку, цыбулю, часнык. Тыя, каго саджалі без парушэння ў правах, мелі права на атрыманне пасылак. У лагеры сярод вязняў арганізоўваліся шахматныя турніры. Былі і такія, хто ў мяне выйграваў.

Гады праз два мне абвясцілі, што суд у складзе трох чалавек прысудзіў мяне да 5 гадоў лагераў наводле артыкула 58 дроб 3. Маецца даведка № 33136 тытл "Я" ад 24.10.49: асуджаны 1 красавіка 1946 года паводле артыкула 5813 на 5 гадоў. Усць-Ілімскі лагер. Вызвалены 26.10.49. Далі мне 30 рублёў на дарогу і сухі паёк. Пасля вызвалення хацеў уладкавацца ў Гародні, але ў міліцыі сказалі - толькі не ў памежным раёне. Прыехаў у Ліду ў снежні 1949 года, пачаў шукаць работу - накіравалі на будаўніцтва мясакамбіната. Было мне тады 27 гадоў. Пачаў працаваць будаўніком - капаў траншэі. На мясакамбінаце тады не было ні канторы, нічога. У 1951 годзе жаніўся, жонка працавала на мясакамбінаце, пазней стала хатняй гаспадыняй і рабіла вянкі. Тады ж зноў пачаў сур'ёзна займацца шахматнай кампазіцыяй, пасылаў задачы ў Маскву. Шахматнага клуба ў Лідзе тады не было. Арганізаваў першынство горада - я яго выйграў. На абласных першынствах займаў 5-6 месца. Чэмпіён Ліды 1954 і 1955 гадоў. У 1955 годзе мяне прызначылі в.а. інжынера-будаўніка. Пацвердзіліся словы прафесара Злінскага пра класічную філалогію. У1957 годзе галоўны бухгалтар прыглядзеўся да мяне і ўзяў у бухгалтэрыю. Бухгалтарскаму ўліку навучыўся сам. У1963 годзе быў прызначаны наместнікам галоўнага бухгалтара. У 1968-69 гадах у СШ №3 была арганізавана вячэрняя двухгадовая бухгалтарская школа. Здаў усе прадметы на выдатна. Мне прапаноўвалі месца галоўнага бухгалтара на Ваўкавыскім мясакамбінаце. У 1976 годзе пайшоў на пенсію."

Рэабілітаваны ў 1992 годзе на 79-м годзе жыцця.

*Даведка №13/396-92 ад 10.07.1992 года.*

*Гебельт Вацлаў Яўгенавіч, ...27 снежня 1944 года быў арыштаваны Сапоцкінскім РА НКУС Гарадзенскай вобласці і паводле пастановы Асобнай Нарады пры МУС СССР ад 1 красавіка 1946 года па палітычных матывах паводле арт. 58-3 КК РСФСР заключаны ў папраўча-працоўны лагер тэрмінам на 5 гадоў. Вызвалены з месцаў пазбаўлення волі 24 кастрычніка 1949 года. У адпаведнасці з Указам Прэзідэнта СССР "Аб аднаўленні праваў усіх ахвяр палітычных рэпрэсіі 50-х гадоў" ад 13 жніўня 1990 года і адпаведна парадку, устаноўленаму пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" ад 6 чэрвеня 1991 года пастанова Асобнай Нарады пры МУС СССР ад 1 красавіка 1946 года ў адносінах Гебельта Вацлава Яўгенавіча прызнана незаконнай, і ён па гэтай справе рэабілітаваны.*

*Пракурор вобласці, дзяржаўны дарадца юстыцыі 3 класа Л.П. Цярэшчанка.*

Першая жонка памерла ў 1973 годзе, другая жонка, інвалід II групы, памерла ў кастрычніку 1997 года - працавала яна ў пральні, выдавала бялізну. Агульных дзяцей не меў. У другой жонкі быў сын ад першага шлюбу. Сёстры і браты пасля вайны жылі ў Польшчы. Сафія памерла ў Шчацініку ў 1958 годзе, Эмілія ў Шчэціне ў 1985 годзе, Антон - у Свабодзіне ў 1977 годзе, Тадэвуш - у Познані ў 1995 годзе.

Вацлаў Яўгенавіч апублікаваў каля 600 шахматных задач, 120 з якіх атрымалі прызы на конкурсах, у тым ліку 52 першыя. Чэмпіён СССР у пятым асабістым першынстве па раздзеле двухходовых задач (1956). Чэмпіён СССР па шахматнай кампазіцыі ў камандным першынстве ў 1969, 1971 гадах. Шэсць разоў выступаў на міжнародных спаборніцтвах у складзе зборнай каманды СССР. Лепшыя дасягненні: 2-е месца ў матчы СССР-Галандыя, 1-ае месца ў матчы Дружбы 1965 года. Пераможац першага чэмпіянату Міжнароднай шахматнай федэрацыі па шахматнай кампазіцыі ў камандным першынстве (1975). Выступаў за зборную каманду БССР ва ўсіх 12 камандных першынствах СССР, яго задачы займалі 6 разоў першае месца і 8 разоў другое. Адзін з аўтараў кнігі "Шахматная кампазіцыя ў Беларусі", Менск, 1981.

**Валеры Слiўкін,**
*супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастац. музея.*




***Незалежная суполка "Шах-плюс" (wrubinchyk@gmail.com) накладам 100 ас.выпусціла канверт да 100-годдзя з дня нараджэння Вацлава Гебельта.***





# “Пан Тадэвуш” на выставе ў Лідзе

22 снежня ў Лідскім бібліятэчным філіяле № 4, што на бульвары князя Гедыміна, адкрылася выстава выданняў паэмы Адама Міцкевіча “Пан Тадэвуш” да 215 угодкаў з дня нараджэння класіка.

На выставу найперш Таварыствам польскай культуры, а таксама бібліятэчнай сістэмай, літаратурным музеем і ТБМ было сабрана 25 выданняў знакамітай паэмы на польскай, беларускай і рускай мовах. “Пан Тадэвуш” перакладзены на 31 мову, колькасць выданняў яго даўно сягнула за сотню, але і 25 выданняў у раённай бібліятэцы таксама не кепска. Тут і ратапрынтныя перавыданні і арыгіналы. Пяць беларускіх выданняў: тры выданні перакладу Язэпа Семяжона, адно Пятра Бітэля і адно Браніслава Тарашкевіча (ольштынскае выданне 1985 г.), нажаль, беларускага выдання 1981 года не аказалася.





Падчас імпрэзы гучалі адрыўкі з паэмы на беларускай і польскай мовах. Цікава было пачуць, што першы пераклад “Пана Тадэвуша” на беларускую мову рабіў Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, адзін з перакладчыкаў - Пятро Бітэль нарадзіўся ў Радуні, а быў хрышчаны ў Лідзе, а львоўскае выданне праілюстраваў Міхал Эльвіра Андрыёлі, які падчас паўстання 1863 года ваяваў на Лідчыне ў аддзеле Людвіка Нарбута.





Наступным пунктам імпрэзы быў паказ фільма “Пан Тадэвуш” рэжысёра Рышарда Ардынскага, знятага ў 1928 г. Фільм яшчэ нямы, з цітрамі на польскай мове, на беларускую мову цітры па ходу фільма перакладалі Станіслаў Суднік і Аляксандр Колышка. Фільм зусім нядаўна з’явіўся на тэрыторыі Беларусі, быў перададзены ў Ліду Наваградскім краязнаўчым музеем, за што вялікі дзякуй, бо практычна ўсе прысутныя бачылі “жывы” нямы фільм упершыню.



На завяршэнне перад прысутнымі выступіў лідскі гурт старадаўняй музыкі “Скудрынка”.

Вялі імпрэзу на добрай беларускай мове супрацоўнікі бібліятэкі Валянціна Гольмант і Таццяна Альшанец.

Выстава будзе дзейнічаць блізу месяца, а ахвотныя змогуць замовіць прагляд фільма.

*Яраслаў Грынкевіч.*

# "Каляды ў вялікім горадзе-2014" у Re:Public

Гурт "Палац" запрашае жыхароў сталіцы адзначыць Каляды ў клубным фармаце. Канцэрт "Каляды ў вялікім горадзе" адбудзецца 6 студзеня 2014 году ў Re:Public.

Сёлета спаўняецца 15 год праекту лідара гурта "Палац" - "Каляндны сустрэчы з Алегам Хаменкам", які летась займеў новую назву і новы фармат. Музычна-тэатралізаваная дзея "Каляды ў вялікім горадзе" цяпер праходзіць у клубных умовах, а не ў канцэртных залах. Гэтым разам для правядзення імпрэзы абраная найвялікшая клубная пляцоўка Менска - Re:Public.

*"Каляды заўсёды святкаваліся людна. Гэта цудадзейная ноч, калі неабходна сабрацца разам і ўшанаваць рух ад мінулага да будучыні. Кожны раз, калі мы ладзім гэту святочную імпрэзу, імкнемся зрабіць гэта аддана, якасна, шчыра. Вельмі задаволены тым, што вечарына прыпадае менавіта на вечар з 6 на 7 студзеня - у сакральны час"*, - кажа Алег Хаменка.

Адмыслова да калядняга вечара на 6 студзеня гурт "Палац" рыхтуе вялікую сольную праграму - музыкі сыграюць песні з свайго апошняга альбома "Кола грукатала", свае галоўныя хіты ды ўзгадаюць рарытэтныя рэчы - тыя кампазіцыі, якія не гучалі больш за 15 год. *"Сыгралі на рэпетыцыі і ажно расчуліліся, такія крутыя творы, якія аказаліся незаслужана забытымі!"*, - кажа лідар "Палаца".





Сапраўдную атмасферу свята ў гэты вечар дапамогуць ствараць гурты "Літы Талер", "Ветах" і Guda. Таксама гледачам будзе прадэманстраваны сучасны варыянт традыцыйнага каляднага шэсця.

Арганізатары "Каляды ў вялікім горадзе" заклікаюць прыходзіць на канцэрт у карнавальных строях. Пэўных патрабаванняў тут няма - дастаткова проста ўключыць фантазію.

Re:Public, Мінск, вул. Прытыцкага, 62 (ст. м. Кунцаўшчына). 19.00.

Квіткі - 80 000 (танцпляц, папярэдне), 100 000 (танцпляц, у дзень), 100 000 (столікі, папярэдне), 120 000 (столікі, у дзень). Тэлефон для даведак: +375 29 6872093. Квіткі ў касах і на сайце KBITKI.BY.

*Палац.*





## *Ахвяраванні на ТБМ*

1. Рабека Мікола - 200 000 р., г. Менск
2. Пухоўская Юлія - 30 000 р., г. Менск
3. Данілік Віктар - 30 000 р., г. Менск
4. Грыбоўскі Васіль - 15 000 р., Міхнавічы
5. Антанюк Іван - 100 000 р., г. Менск
6. Чыгір Е.А. - 20 000 р., г. Гародня
7. Лагуціна Марына - 50 000 р., г. Менск
8. Ляўшун Дзяніс - 150 000 р., г. Менск
9. Васілючак Міхась - 100 000 р., г. Гародня
10. Давідовіч П.В. - 50 000 р., г. Берасце
11. Панамароў Сяргей - 50 000 р., г. Менск
12. Мануленка Ўладзімір - 50 000 р., г. Берасце
13. Міхальчанка Тамара - 200 000 р. г. Менск
14. Восіпава Аляксандра - 50 000 р., г. Гомель
15. Беражная В.Г. - 100 000 р., г. Ліда
16. Давідоўскі Ігар - 100 000 р., г. Менск
17. Полацкая суполка ТБМ - 500 000 р.
18. Лясneўская Алена - 50 000 р., г. Менск
19. Сакалоўскі Віктар - 200 000 р., г. Ваўкавыск
20. Ляўчэня Сямён - 200 000 р., г. Менск
21. Кукавенка Іван - 100 000 р., г. Менск
22. Маслюкоў Віктар - 40 000 р., г. Менск
23. Павідайка В.М. - 140 000 р., г. Менск
24. Вештарт Галіна - 50 000 р., г. Менск
25. Міцкевіч Андрэй - 30 000 000 р., г Менск

Дзейнасць ГА “ТБМ імя Францішка Скарыны” па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас, вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ №3015741233011 у Аддзяленні № 539 ААТ “Беінвестбанка” код 739 (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

Паведамленне

Грамадскае аб’яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705

атрымальнік плацяжу

Аддзяленне № 539 ААТ “Белінвестбанк”

назва банка

Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Касір

Пеня
Разам

Плацельшчык

Грамадскае аб’яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" УНП 100129705

атрымальнік плацяжу

Аддзяленне № 539 ААТ “Белінвестбанк”

назва банка

Рахунак атрымальніка 3015741233011 Асабовы рахунак 739

(прозвішча, імя, імя па-бацьку, адрас)

| Від плацяжу | | | Дата | Сума |
|---|---|---|---|---|
| Ахвяраванні ТБМ | на дзейнасць | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Квітанцыя

Касір М.П.

Пеня
Разам

Плацельшчык

## Канверт да 75 - годдзя музея А. Міцкевіча

Дом-музей Адама Міцкевіча быў адкрыты для наведвальнікаў 11 верасня 1938 года ў г. Наваградку ў аднаўленым доме сям'і Міцкевічаў. Музей уключаны ў Дзяржаўны спіс гістарычна-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь.

Канверт выдадзены РУП “Белпошта”.

*Наш кар.*



